# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА Ў СЛУЖБОВЫХ СПРАВАЗДАЧАХ ЧЭХАСЛАВАЦКІХ НАГЛЯДНЫХ ОРГАНАЎ (1920—1930-я гг.)

На працягу міжваеннага дваццацігоддзя ўсходні («рускі») кірунак быў істотным і прыярытэтным элементам у знешнепалітычнай дзейнасці Чэхаславацкай Рэспублікі (ЧСР). Думкі аб нетрываласці ўлады бальшавікоў і хуткай змене рэжыму ў Расіі нарадзілі ў асяроддзі лідараў рэспублікі ідэю аб неабходнасці ўсебаковай падтрымкі эміграцыі з былой Расійскай імперыі. Па меркаваннях Э. Бенеша, аднаго з заснавальнікаў ЧСР, у будучыні, пасля падзення бальшавікоў, эмігранты мелі скласці асноўны рэсурс для пабудовы дэмакратычнай, канфедэратыўнай Расіі, якая будзе праводзіць прыязную палітыку ў адносінах да ЧСР [1].

Правядзеннем дзяржаўнай праграмы «Руская акцыя дапамогі» (Ruská pomocná akce) [2] у адносінах да эміграцыі кіравала Міністэрства замежных спраў (МЗС) ЧСР на чале з Э. Бенешам. Непасрэдная адказнасць за рэалізацыю «Рускай акцыі» была ўскладзена на II/2 (палітычны) аддзел, на чале якога знаходзіўся намеснік міністра замежных спраў ЧСР В. Гірса [3]. Гэты аддзел вырашаў істотныя пытанні, звязаныя з дзейнасцю эміграцыі (арганізацыя пераезду эмігрантаў у ЧСР, вызначэнне іх прававога статусу, фармаванне бюджэту «Рускай акцыі», стварэнне адукацыйных і навуковых устаноў, фінансаванне эмігранцкіх арганізацый).

Адным з базавых прынцыпаў «Рускай акцыі» быў яе апалітычны характар. Нягледзячы на гэта, большасць эмігранцкіх арганізацый ставіла перад сабой палітычныя мэты, а ўнутранае жыццё тых арганізацый было звышпалітызаваным. Чэхаславацкая ўлада заплюшчвала на гэта вочы, але разам з тым пільна сачыла за актыўнасцю эмігрантаў з былой Расійскай імперыі. Мяжа дазволенага існавала — дзейнасць эмігранцкіх аб’яднанняў не павінна была шкодзіць знешнепалітычным інтарэсам ЧСР, а таксама эмігранты не мелі права ўмешвацца ва ўнутрыпалітычнае жыццё краіны. Гэтым можа быць патлумачаны перманентны дзяржаўны кантроль у адносінах да эмігрантаў з боку шэрагу дзяржаўных органаў Чэхаславакіі.

Першым крокам, неабходным для запачаткавання любой дзейнасці, з’яўляліся стварэнне і афіцыйная рэгістрацыя арганізацыі. Заснаванне эмігранцкага грамадскага аб’яднання праводзілася па наступнай схеме. Ініцыятыўная група новай арганізацыі павінна была выпрацаваць статут, які накіроўваўся на разгляд у Пражскае паліцэйскае ўпраўленне (ППУ) (Policejní Ředitelství v Praze) [4]. Паказальна, што эмігранты павінны былі ў статуце прадэкларававаць апалітычны характар будучай дзейнасці. ППУ перасылала статут у Міністэрства ўнутраных спраў (МУС) ЧСР, у кампетэнцыі якога знаходзілася зацвярджэнне новай грамадскай арганізацыі. У разе выканання ўсіх умоў і адпаведнасці патрабаванням чэхаславацкага заканадаўства пытанне аб рэгістрацыі вырашалася станоўча. Далей МУС павінен быў паінфармаваць Краёвае палітычнае ўпраўленне Прагі (КПУ) (Zemská správa politická v Praze) [5] аб афіцыйным зацвярджэнні новага грамадскага аб’яднання. КПУ ў сваю чаргу інфармавала па гэтым пытанні ППУ, а пасля і ініцыятыўную групу. Адразу пасля атрымання інфармацыі аб ухваленні статута ініцыятыўная група новаўтворанага аб’яднання, згодна з чэхаславацкім заканадаўствам, павінна была паведаміць аб пачатку сваёй праўнай дзейнасці ППУ. Паліцэйскае ўпраўленне брала на ўлік новую арганізацыю і заводзіла на яе асабістую справу.

Для правядзення любога мерапрыемства (агульны сход, святочная акадэмія, лекцыя) кожная зарэгістраваная эмігранцкая арганізацыя ў ЧСР мусіла атрымаць афіцыйны дазвол з

боку ППУ. З гэтай прычыны прыкладна за тыдзень да пачатку меркаванага мерапрыемства старшыня арганізацыі накіроўваў у ППУ пісьмовы запыт з пазначэннем часу, месца і праграмы сходу. Пасля правядзення пэўнага мерапрыемства (напрыклад, агульнага сходу) кіраўніцтва адпаведнай арганізацыі мела паведаміць ППУ аб выніках выбараў у склад прэзідыума гэтай арганізацыі (пазначаліся імя і прозвішча абраных, іх пасада і месца жыхарства).

Але звароты з боку грамадскіх арганізацый на адрас ППУ са звесткамі аб мерапрыемствах былі не адзінай крыніцай інфармацыі аб унутраным жыцці эмігранцкіх арганізацый, якой валодала ППУ. На ўсіх паседжаннях афіцыйна зацверджаных эмігранцкіх арганізацый прысутнічаў супрацоўнік ППУ, які павінен быў скласці справаздачу пра ход мерапрыемства (некаторыя з выяўленых у архіўных фондах справаздач і складаюць змест нашай публікацыі). Копіі справаздач дасылаліся таксама ў прэзідыумы КПУ і МУС. Прэзідыум МУС ЧСР дасылаў копію справаздачы аб эмігранцкім мерапрыемстве ў II/2 аддзел МЗС ЧСР, якому гэтая інфармацыя была патрэбна для маніторынгу і карэктавання «Рускай акцыі».

Перад тым як перайсці да характарыстыкі апублікаваных ніжэй дакументаў, варта зрабіць агляд архіўных фондаў, у якіх былі выяўлены паліцэйскія справаздачы адносна дзейнасці беларускіх эмігранцкіх арганізацый. Гэтыя матэрыялы знаходзяцца на захоўванні ў архіве МЗС Чэшскай Рэспублікі (ЧР) (Archiv ministerstva zahraničních věcí ČR) і Нацыянальным архіве ЧР (Národní archiv ČR). Справаздачы сабраныя ў фондзе другога палітычнага аддзела архіва МЗС ЧР (AMZV, 2. Sekce politická) і двух фондах НА ЧР: фонд № 207 (Zemský úřad Praha) і фонд № 908 (Ministerstvo zahraničních věcí — Ruská pomocná akce). Гэтыя фонды неабходна разглядаць як адзін тэматычны комплекс. Фонд № 908 складаецца з дакументаў МЗС ЧСР, перададзеных на захаванне ў НА ЧР. У гэтых фондах змешчаны матэрыялы, якія сабраліся ў выніку працы II/2 аддзела МЗС ЧСР па ажыццяўленні «Рускай акцыі». Фонд № 207 НА ЧР складаюць матэрыялы Краёвага палітычнага ўпраўлення Прагі, у кампетэнцыю якога ўваходзіў нагляд за дзейнасцю грамадскіх аб'яднанняў і арганізацый.

Падчас працы з фондамі ўзніклі пэўныя цяжкасці, звязаныя з асаблівасцямі сістэмы ўпарадкавання архіўнага матэрыялу ў Чэхіі. Кожны фонд падзелены на скрынкі (kartony). У скрынках матэрыял сістэматызаваны па тэмах. Скрынкі часцей за ўсё складаюцца з папак. Кожная папка прысвечана дзейнасці пэўнай арганізацыі. У папкі ўваходзяць яшчэ меншыя папкі, якія маюць адмысловы нумар і тычацца канкрэтнага пытання з дзейнасці арганізацыі. Але «беларускія» матэрыялы часта не складзены ў паасобныя папкі, а далучаны да папак украінскіх ці рускіх арганізацый. Да таго ж ускладняе пошук тое, што ў архіўных даведніках у пераважнай большасці не пазначаецца інфармацыя пра беларускія арганізацыі. Таму даводзіцца прагледзець шмат скрынак, каб знайсці патрэбную «беларускую» крыніцу.

У гэтай публікацыі пададзены паліцэйскія справаздачы з агульных сходаў Беларускай рады ў Празе [6], таварыства студэнтаў маларосаў і беларусаў «Адзінства рускай культуры» [7], Саюза студэнтаў — грамадзян БССР [8], Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый [9], справаздача з мерапрыемства, прысвечанага святкаванню 14-х угодкаў абвяшчэння БНР.

Дакументы падбіраліся такім чынам, каб як мага шырэй ахапіць пярэстасць поглядаў, характэрных для беларускай калоніі ў Празе. Да таго ж былі абраны такія справаздачы, у якіх змяшчаецца інфармацыя, раней невядомая (ці вядомая ўрыўкава) беларускім даследчыкам. Большасць змешчаных дакументаў (акрамя дакумента № 8) ахоплівае 1920-я гг. Гэта абумоўлена наяўнасцю архіўнага матэрыялу і самім зместам грамадска-палітычных працэсаў беларускай дыяспары. Для беларусаў у ЧСР першае міжваеннае дзесяцігоддзе было бурлівым і актыўным, поўным спрэчак і барацьбы, перанасычаным на падзеі, а 1930-я гг., наадварот, часам крапатлівай навукова-даследчай працы паасобных прадстаўнікоў дыяспары, іх рэфлексіі адносна падзей на Бацькаўшчыне, згасання актыўнасці і скарачэння дыяспары.

Неабходна заўважыць, што паліцэйскія справаздачы аб дзейнасці такіх значных беларускіх арганізацый, як Беларускі сялянскі саюз у Празе, Аб'яднанне беларускага паступова-

га студэнцтва (АБПС), замежнае бюро Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Беларускае (крывіцкае) культурнае таварыства ім. Ф. Скарыны, у фондах вышэйпамянёных архіваў не знойдзены. На нашу думку, патлумачана такая сітуацыя можа быць тым, што гэтыя беларускія арганізацыі не былі афіцыйна зарэгістраваны, таму і не падпадалі пад кантроль паліцэйскіх органаў.

У публікацыі найбольш рэпрэзентавана дзейнасць Беларускай рады ў Празе (дакументы № 1, 3, 5). У іх адлюстроўваюцца амбіцыйнасць планаў і поспехі ў пачатку дзейнасці Рады (дакумент № 1), супярэчлівасці ўнутранага жыцця і барацьба розных ідэалагічных плыняў у арганізацыі (дакумент № 3), складанасці, якія паўсталі перад кіраўніцтвам аб’яднання ў сувязі са згортваннем «Рускай акцыі», пагаршэннем умоў фінансавання і вядзення працы (дакумент № 5).

Поспехі зменавехаўскага руху сярод беларускай моладзі, папулярнасць ідэі рээміграцыі ў Савецкую Беларусь, ліберальныя ўмовы існавання эміграцыі засведчылі стварэнне Саюза студэнтаў — грамадзян БССР. Дзейнасці гэтай арганізацыі прысвечаны дакументы № 4, 6. Стракатую палітру грамадска-палітычнага жыцця беларусаў у Чэхаславакіі дапаўняе дакумент № 2 — у ім паказваецца дзейнасць таварыства студэнтаў маларосаў і беларусаў «Адзінства рускай культуры». Гэтая арганізацыя была ангажавана ў расійскі эміграцыйны асяродак, ім падтрымлівалася і накіроўвалася.

Міжнародны аспект дзейнасці АБСА, які стаў прыярытэтным з канца 1920-х гг., павелічэнне ролі віленскага аддзела арганізацыі, намаганні для каардынацыі беларускага студэнцкага руху з боку прэзідыума аб’яднання складаюць змест дакумента № 7. Святкаванне ўгодкаў абвяшчэння БНР, пра якое ідзе гаворка ў дакуменце № 8, рэгулярна праводзілася ў 1930-я гг., мела сімвалічны змест, з’яўляючыся істотнай цаглінай у падмурку дыяспаральнай ідэнтычнасці, дапамагала згуртаванню дыяспары і падтрыманню кантактаў паміж яе прадстаўнікамі.

Дакументы друкуюцца ў перакладзе складальніка з чэшскай на беларускую мову. Адрасы прыведзеных у публікацыі асобаў і месцы правядзення мерапрыемстваў падаюцца на мове арыгінала. Гэта дазволіць значна палегчыць (для ўсіх зацікаўленых) пошук гэтых месцаў у сучаснай Празе. Каля прозвішчаў невядомых аўтару людзей прыводзіцца адпаведнік з арыгінальнага тэксту. Загалоўкі складзены аўтарам публікацыі. Справаздачы публікуюцца ў храналагічнай паслядоўнасці. Біяграфічныя звесткі, змешчаныя ў заўвагах, тычацца часу пражывання канкрэтнай асобы ў ЧСР.

*А. І. Буча*

## 1
## ПАЛІЦЭЙСКАЯ СПРАВАЗДАЧА АБ ПЕРШЫМ АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ БЕЛАРУСКАЙ РАДЫ Ў ПРАЗЕ, ЯКІ АДБЫЎСЯ 30 ВЕРАСНЯ 1924 г.

**СПРАВАЗДАЧА. Тэма:** 1-ы агульны сход таварыства «Беларуская рада ў Празе»[10], Praha II, Wenzigova ul. č. 4.

**Склікальнік**: Мікалай Вяршынін, Praha II, Wenzigova ul. и. 4.

**Праграма**: 1) рэферат заснавальнікаў таварыства; 2) выбары прэзідыума таварыства; 3) выбары рэвізійнай камісіі; 4) вольныя прапановы.

**Месца**: рэстаран Nová Pošta, Vyšehrad, Vratislavova ul. č. 23.

**Час**: 30 верасня 1924 г. з 10.00 да 13.30.

**Прысутныя**: 22 сябры.

**Старшыня**: В. Захарка, Podolí-Dvorce č. 5.

**Дакладчыкі**: П. Крачэўскі, Praha II, Erbenova ul. č. 1, др. Л. Заяц, Zbraslav č. 193.

**ХОД.** Ад імя заснавальнікаў таварыства сход адкрыў П. Крачэўскі[11], які разам з тым коратка расказаў пра мэту арганізацыі, базавым прынцыпам якой з'яўляецца выключна культурна-асветніцкая праца. Таварыства будзе імкнуцца да ўсебаковай падтрымкі беларускіх грамадзян і студэнтаў, якія жывуць у ЧСР, а таксама да наладжвання і ўмацавання сяброўскіх адносін з чэхаславацкім народам. Акрамя таго, Беларуская рада будзе выконваць усю дапаможную працу ў кірунку інфармавання чэхаславацкага ўрада і кампетэнтных інстытуцый аб запатрабаваннях сваіх грамадзян, дбаць аб прыняцці іх на прадпрыемствы (працаўладкоўваць. — *А. Б.*) і ў школы (вышэйшыя навучальныя ўстановы. — *А. Б.*), аказваць сваім сябрам неабходную помач, засноўваць са сваіх сродкаў, а таксама з дапамогі адпаведных устаноў уласныя вышэйшыя школы і клубы, выдаваць розныя друкаваныя матэрыялы на беларускай мове, арганізоўваць вечарыны, тэатры, канцэрты і лекцыі, засноўваць філіялы ў іншых гарадах ЧСР. Акрамя таго, П. Крачэўскі нагадвае прысутным аб значэнні дадзенага апалітычнага аб'яднання і патрабуе, каб кожны пра гэта памятаў, рэгулярна выконваў свае сяброўскія абавязкі, заклікае ўсіх да згуртаванасці і супольнай працы на карысць сваёй Бацькаўшчыны.

Далей адбыліся выбары старшыні сходу.

Старшынёю быў абраны В. Захарка, які зачытаў праграму сходу. Затым перайшлі да выбараў праўлення, у склад якога былі абраны [12]: др. Л. Заяц, М. Вяршынін, Яўген Дыліс [13] (Nusle, Benešova č. 60), В. Захарка, Ул. Жылка [14] (Radotín č. 275). Пасля старшыня сходу прачытаў спіс зарэгістраваных сяброў і запытаўся ў прысутных адносна працэдуры прыняцця новых.

Заяц падкрэслівае, што прыняцце новых сяброў — гэта бесстаронняя справа, і трэба браць пад увагу ўсе акалічнасці, а менавіта паводзіны і жыццё заяўніка, строга сачыць за тым, каб той не ўчыніў таварыству ніякіх цяжкасцяў і непрыемнасцяў. У сувязі з гэтым Заяц прапаноўвае, каб кожны заяўнік прадстаўляў тры рэкамендацыі, атрыманыя ад правадзейных сяброў таварыства. Гэтая прапанова была прынята.

Паколькі ніякіх прапаноў больш не паступіла, старшыня сход скончыў. Надзвычайных выпадкаў не было.

Прага, 1 кастрычніка 1924 г. (подпіс нечытэльны)

NA ČR. Fond 207 (PZU). Karton 406. Sign. 207—406—21.

## 2
## ПАЛІЦЭЙСКАЯ СПРАВАЗДАЧА АБ ПУБЛІЧНЫМ ПАСЯДЖЭННІ ТАВАРЫСТВА СТУДЭНТАЎ МАЛАРОСАЎ І БЕЛАРУСАЎ «АДЗІНСТВА РУСКАЙ КУЛЬТУРЫ», ЯКОЕ АДБЫЛОСЯ 9 САКАВІКА 1925 г.

**СПРАВАЗДАЧА.** **Тэма**: публічнае паседжанне таварыства «Саюз студэнтаў маларосаў і беларусаў — Адзінства рускай культуры» ў Празе.

**Склікальнік**: за таварыства старшыня Е. Гулы[15], Troj č. 89.

**Праграма**: выступ старшыні пра пачатак дзейнасці арганізацыі.

**Месца**: у зале «Рускага дома», Praha-II, Panská ul. 16.

**Час**: 9 сакавіка 1925 г. з 16.30 да 23.00.

**Прысутныя**: прыкладна 480 асоб.

**Старшыня**: Е. Гулы, Troj č. 89.

**Дакладчыкі**: Е. Гулы, Troj č. 89; праф. др. Сяргей Завадскі[16], Bubeneč č. 597.

**ХОД.** Старшыня Саюза Гулы, прывітаўшы гасцей і сяброў таварыства, падзякаваў за вялікую колькасць прысутных, што робіць гонар маладой арганізацыі, заданнем якой з'яўля-

ецца аб'яднанне ўсіх рускіх і ўсіх, хто мысліць па-руску, а таксама ўсіх, якія любяць сваю радзіму, з мэтай адраджэння новай, магутнай і вольнай Расіі.

Паколькі Расія ўжо не будзе доўга знаходзіцца пад прыгнётам нетутэйшых (прышлых. — *А. Б.*) бальшавікоў, якія, задушыўшы рускія правы, беспадстаўна прынізілі самую моцную частку славянства, маладая генерацыя маларосаў і беларусаў узяла сабе за заданне аб'яднацца на культурна-гістарычным грунце. Бо яны (беларусы і ўкраінцы. — *А. Б.*) не хочуць, напрыклад, праз захаванне сваёй мовы, сваіх песняў раздвойвацца ад велікаросаў, але хочуць быць з імі разам як сыны той самай радзімы, працаваць на культурнай ніве дзеля свабоды сваёй радзімы.

Нагадвае, што «моц у адзінстве», і таму заклікае ўсіх прысутных да агульнай працы і падтрымкі іх (таварыства. — *А. Б.*) цяжкага задання ў імя лепшай, будучай рускай Расіі.

Далей выступіў праф. Завадскі. Казаў пра любоў да радзімы і пра велікаросаў, якія заўсёды, прысвойваючы сабе пэўныя правы, прыгняталі іншых. Але заўважае, што за царскім часам былі прыгнечаны не толькі беларусы і маларосы, але і велікаросы, бо тады не была ўлада толькі велікаросаў, але былі там прадстаўлены ўсе. Тое самае ёсць цяпер і за бальшавікамі, якія прыгнятаюць усіх без адрозненняў.

Прыгадвае гісторыю Расіі, якая ёсць, маўляў, агульнай, не трэба рабіць аніякіх прынцыповых адрозненняў паміж беларусамі, маларосамі і велікаросамі. Далей згадвае пра мову, у якой праяўляецца душа кожнага народу. Заўважае, што і іншыя народы маюць розныя моўныя адметнасці і часам куды большыя, чым рускія, але, нягледзячы на гэта, дамаўляюцца. [...] Просіць ад усіх ідэйнай злучнасці, свабоднага далейшага развіцця і, маючы на ўвазе сапраўдную рускую мінуласць, ізноў аб'яднацца супраць усіх ворагаў Расіі і ўсяго славянства.

Святочнае адкрыццё дзейнасці новага таварыства было скончана спевамі студэнцкага гуртка і некалькіх салістаў.

Надзвычайных выпадкаў не было.

Прага, 10 сакавіка 1925 г. (подпіс нечытэльны)

NA ČR. Fond 908 (MZV—RPA). Karton 364. Č. 4821/25.

## 3
## СПРАВАЗДАЧА СЛУЖБОЎЦА ПРАЖСКАГА ПАЛІЦЭЙСКАГА ЎПРАЎЛЕННЯ АБ АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ БЕЛАРУСКАЙ РАДЫ Ў ПРАЗЕ, ЯКІ АДБЫЎСЯ 12 СНЕЖНЯ 1925 г.

**СПРАВАЗДАЧА.** **Тэма**: агульны сход таварыства «Беларуская рада ў Празе».

**Склікальнік**: за таварыства М. Вяршынін, Praha II, Wenzigova ul. č. 4.

**Праграма**: 1) справаздача прэзідыума; 2) прыняцце новых сяброў; 3) выбары; 4) рознае.

**Месца**: рэстаран U Pokorného, Praha II, Sokolská třída č. 16.

**Час**: 12 снежня 1925 г. з 16.00 да 20.45.

**Прысутныя**: 26 чалавек.

**Старшыня**: В. Русак [17], Radotín, č. 315.

**Дакладчыкі**: Л. Заяц, Zbraslav č. 193; У. Пракулевіч, Praha I, Benediktinská 1; В. Грышкевіч [18], Lipany č. 61; В. Захарка, Vršovice, Slovenská č. 535; Я. Дыліс, Radotín č. 275; П. Крачэўскі, Vinohrady, Erbenova ul. č. 1.

**ХОД.** Агульны сход быў распачаты ў прысутнасці 17 правадзейных сяброў таварыства. Старшынёй сходу быў абраны Русак. Пасля ўхвалення праграмы старшыня Беларускай

рады Заяц зрабіў справаздачу аб дзейнасці прэзідыума. Прэзідыум у першую чаргу займаўся забеспячэннем ахвотных з ліку сяброў таварыства грашовай дапамогай на навучанне, якая дзякуючы ахвяраванням чэхаславацкага Міністэрства замежных спраў ім у большасці выпадкаў была выдзелена. Астатняя праца таварыства была вельмі ўскладнена, хутчэй у выніку колішніх прычынаў, якія цяжка патлумачыць. Іншыя нацыянальныя арганізацыі атрымліваюць грашовыя датацыі на канцылярскія выдаткі, Беларуская рада, аднак, гэтага не атрымала. Не ведае, чым гэта патлумачыць. Мяркуе, што гэта наступства паступовай ліквідацыі эміграцыі. Прыбытак арганізацыі быў невялікі, бо ўзносы сябры не плацілі, таму кіраўніцтва было вымушана зменшыць канцылярскія выдаткі да мінімуму, з-за чаго ўсялякая шырэйшая дзейнасць замаруджвалася, нават была немагчымая. Далей гаворка ішла пра друк, а таксама пра стварэнне беларускай кафедры пры ўкраінскім універсітэце [19], але ў выніку нястачы ўласных фінансавых сродкаў і адхілення заяўкі аб датацыі з боку МЗС ЧСР усе праекты не былі рэалізаваны. Далей Заяц згадаў пра цяжкае становішча некаторых сяброў, якім на падставе інфармацыі, пададзенай польскімі ўстановамі ў МЗС ЧСР [20], была зменшана грашовая дапамога на навучанне на 240 чэшскіх крон у месяц [21]. У выніку гэтыя студэнты былі даведзены да стану галечы, бо іх бацькі не маюць магчымасці аказваць падтрымку на тым узроўні, які быў прадугледжаны. Пасля Заяц прыгадвае, што галоўнай задачай новага прэзідыума будзе стварэнне фінансавай базы, хоць нават і малой, але надзейнай. Усе выдаткі, звязаныя з вядзеннем канцылярыі, сябры прэзідыума аплачвалі да гэтага часу самі.

Пракулевіч, сябра рэвізійнай камісіі, казаў аб тым, што фактычна не было чаго пераглядаць, бо не мелі каштарысу, а што да дзейнасці таварыства, то прэзідыум зрабіў усё, што было яму пад сілу.

Перайшлі да дэбатаў. Грышкевіч сцвярджаў, што ўсе няўдачы вынікаюць з рознагалоссяў у арганізацыі. Усе астатнія арганізацыі, якія кіруюцца агульнай ідэяй, вызначылі для сябе пэўную мэту. Менавіта гэтага не хапае Беларускай радзе. Таму нельга ўсё перакладаць на агульную палітычную сітуацыю. Што віна палягае ў разыходжаннях, пацвярджае апошняя беларуская канферэнцыя ў Берліне [22], дзе сустрэліся тыя беларускія культурна-нацыянальныя дзечы, якія ў сваёй дзейнасці кіруюцца выключна палітычнымі мэтамі [23]. Да гэтага кірунку далучыліся і 3 сябры Рады [24], якія, аднак, не выступалі ад яе імя, але парушылі дысцыпліну таварыства, бо з'яўляліся сябрамі праўлення. Калі інтарэс таварыства заснаваны на ідэі вызвалення і незалежнасці, то ў такім выпадку павінна быць зацікаўленасць у захаванні Рады [25]. Дзеянні сяброў на канферэнцыі пярэчылі, аднак, гэтым прынцыпам, моцна пашкодзілі беларускаму нацыянальнаму руху, і таму выступоўца падаў рэзалюцыю, якая асуджае дзеянні сяброў, што скампраметавалі сябе, і патрабуе выключэння гэтых сяброў з таварыства, а менавіта: Зайца (цяперашні старшыня таварыства і былы міністр беларускага ўрада), Пракулевіча, Дыліса.

Жылка сцвярджаў, што эміграцыя дагэтуль жыве вялікімі летуценнямі, чакаючы на нешта, што проста немагчыма. Абставіны ўжо дужа змяніліся, і яна (эміграцыя. — *А. Б.*) нічому так і не навучылася. Яе кансерватызм ёсць яе пагібеллю. Жылка выказаўся супраць пададзенай рэзалюцыі і шкадуе, што Заяц не падаў аніякага тлумачэння да Берлінскай канферэнцыі.

Пракулевіч казаў, што ён і Заяц выступалі на канферэнцыі, кіруючыся ўласнай адказнасцю, і толькі за кансалідацыю беларускай інтэлігенцыі, наладжванне сувязяў з радзімай, за пашырэнне культурнай працы, якая да гэтага часу была прыдушана. Няма аніякіх прычынаў вінаваціць іх у здрадзе, бо эміграцыя павінна ўжо змірыцца з рэчаіснасцю і спытацца ў сябе, што скажуць на гэта дома на радзіме, а не тое, што скажуць некалькі паасобных эмігрантаў а ля Шапавал [26]. Палітычную працу, маўляў, яны ўжо скончылі на радзіме, а тут павінны працаваць на нацыянальна-культурнай ніве, не трэба таму падымаць столькі шуму, скажэннем рабіць рэч горшай, чым яна ёсць у рэальнасці, і выключаць іх з таварыства.

Захарка выказвае недавер сябрам прэзідыума, бо тыя не толькі не дапамаглі Радзе [27], але, наадварот, ёй нашкодзілі. Рада, маўляў, была водгукам нацыянальна-вызваленчага руху, а яны яе разбілі. На іх кладзецца адказнасць за нанясенне шкоды скансалідаванасці беларускай інтэлігенцыі. Крычыць: «Цяпер сыноў беларускага народу зноў захапіў той народ, які ў сучаснасці і ў мінулым беларускую нацыянальную культуру душыў, народ прыгнятаў і прыгнятае». У запале называе іх здраднікамі народу і хоча распачаць галасаванне па рэзалюцыі.

Узняўся моцны шум, бо абвінавачаныя хацелі сказаць словы ў сваё апраўданне, тады як астатнія былі супраць гэтага. Канчаткова старшыня паставіў пытанне аб просьбе абвінавачаных на выступ на галасаванне, аднак 10 галасамі супраць 7 пытанне было вырашана не на іх карысць. Далей перайшлі да галасавання па рэзалюцыі і выключэння названых сяброў. За выключэнне прагаласавалі 10 чалавек, супраць чаго моцна пратэставалі астатнія. Ізноў настаў вялікі хаос, бо выключаныя не хацелі пакідаць памяшкання, і ў гэтым іх падтрымлівалі наступныя 4 сябры. Пасля марных намаганняў старшыні навесці парадак Заяц абвясціў, што яны сыдуць добраахвотна толькі ў тым разе, калі ім будзе дадзена слова для абароны. Канчаткова 9 галасамі ім было дазволена выказацца.

Заяц казаў, што такія абвінавачанні з’яўляюцца грубым выпадам, бо тут няма прычынаў для абвінавачання ў здрадзе. Ён, маўляў, меў права так дзейнічаць, бо лічыць за вызначальную толькі большасць, якая знаходзіцца на айчыне. Падрабязную справаздачу аб канферэнцыі падаць не можа, бо там быў неафіцыйна, Раду рэпрэзентаваў Вяршынін. Далей кажа, ці ведаюць яны, што цяпер на радзіме праводзіцца эфектыўная культурная работа, якая патрабуе добрых працаўнікоў, і не будзе здрадай, калі ён прыйдзе ім на дапамогу. Нагадвае, што ён — стары і дасведчаны працаўнік на культурнай ніве, і таму яшчэ больш абражае, калі яго абвінавачваюць такія маладзёны, якія селі на плечы некалькім кансерватарам. Кажа: «Што будзеце рабіць, калі скончыце вучобу? Будзеце хутчэй займаць месцы мясцовай інтэлігенцыі і будаваць рэспублікі за куфлем піва?! Абставіны нагэтулькі змяніліся, што тут немагчыма ствараць незалежнасць рэспублікі, працы вельмі шмат, але на радзіме, у асяроддзі ўласнага народу».

Наступныя абвінавачаныя Пракулевіч і Дыліс называюць такія дзеянні ганьбай Рады. Да іх далучыўся і Менскі (Menskij) [28], які абвясціў гэтыя абмеркаванні недэмакратычнымі. Рада тым самым паказала, што з’яўляецца арганізацыяй палітычнай, а не культурнай, з гэтай прычыны яны добраахвотна пакідаюць таварыства. На гэта ўсе 7 сяброў заспявалі нацыянальны гімн [29] і выйшлі з памяшкання.

Падчас наступных абмеркаванняў былі прыняты 3 новыя сябры, а 12 заяў, якія былі рэкамендаваны акурат выключанымі сябрамі прэзідыума, былі адхілены.

Затым перайшлі да выбараў новага прэзідыума, у які былі абраны: Захарка (старшыня), Вяршынін, Лаўскі [30] (Žižkov, Táboritská ul. 20), Грышкевіч, М. Каберац [31].

Цягам дэбатаў Крачэўскі агучыў думку, што ўсе расколы, якія цяпер праявіліся ў эмігранцкіх арганізацыях, з’яўляюцца справай Масквы, бо яны (Беларуская рада ў Празе. — *А. Б.*), мусіць, маюць водгук сярод суайчыннікаў на радзіме, што для Масквы небяспечна. І гэта ёсць галоўнай прычынай іх (прыхільнікаў савецкага Мінска. — *А. Б.*) умацавання і разбіцця дадзенай арганізацыі. Такая раскольніцкая дзейнасць запланавана праводзіцца ва ўсіх эмігранцкіх арганізацыях, таму яны і вельмі аслаблены ў антысавецкім змаганні. Крачэўскі, аднак, спадзяецца, што, нягледзячы на ўсе інтрыгі, яны (Беларуская рада ў Празе. — *А. Б.*) дасягнуць сваёй мэты, хай сабе раней ці пазней.

Далей, пасля разгляду справы аб сяброўскіх унёсках, старшыня агульны сход закрыў.

Прага, 14 снежня 1925 г. Карэл Лукеш (Karel Lukeš v. r.)

AMZV. 2. Sekce politicka 1918—1939. Karton 390. Č. 26645/25.

## 4
## ПАЛІЦЭЙСКАЯ СПРАВАЗДАЧА АБ АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ САЮЗА СТУДЭНТАЎ — ГРАМАДЗЯН БССР, ЯКІ АДБЫЎСЯ 30 КАСТРЫЧНІКА 1926 г.

**СПРАВАЗДАЧА.** **Тэма**: агульны сход таварыства «Саюз навучэнцаў ВНУ — грамадзян БССР у Чэхаславацкай Рэспубліцы» [32].

**Склікальнік**: Міхаіл Каўцэвіч [33], заяўнік (bytem Kobylisy, Trojská 157).

**Праграма**: 1) справаздача ініцыятыўнай групы аб утварэнні таварыства; 2) выбары прэзідыума і рэвізійнай камісіі; 3) рознае.

**Месца**: Nusle-Údolí, Oldřichova ul., hostinec «Na Rychtě».

**Час**: 30.10.1926 з 14.00 да 15.30.

**Прысутныя**: 12 чалавек.

**Старшыня**: Шыманка Мікола [34] (Vršovice, Vinohradská 5).

**Дакладчыкі**: Каўцэвіч Міхаіл, Шыманка Мікола, Карповіч Аляксей [35] (Vršovice, Vinohradská 5).

(Мова: беларуская. Настрой падчас паседжання: перакананасць, зацікаўленасць.)

**ХОД.** Каўцэвіч адкрыў паседжанне як склікальнік і прапанаваў выбраць прэзідыум паседжання. Былі абраны: старшынёй Шыманка Мікола, сакратаром Рагуля Міхась [36] (Říčany u Prahy č. 210).

Шыманка прапанаваў прытрымлівацца вышэйпазначанага рэгламенту паседжання. — Ухвалена.

Да першага пункта рэгламенту:

Каўцэвіч як прадстаўнік ініцыятыўнай групы давёў, што за прыкладам грамадзян Савецкага Саюза, прадстаўнікоў розных тамтэйшых нацыянальнасцяў, і беларусы, якія жывуць за межамі, лічаць неабходным стварыць таварыства, якое б прытрымлівалася непалітычнай дзейнасці і абараняла інтарэсы сваіх сяброў у кірунку духоўных, культурных, акадэмічных і матэрыяльных запатрабаванняў. З дапамогай якіх сродкаў і якімі спосабамі будзе жыццё аб'яднання весціся, відаць са статута, які быў прамоўцам цалкам зачытаны і асобныя месцы якога патлумачаны. [...]. Паводле цяперашніх вынікаў у таварыстве будзе аб'яднана 14 студэнтаў.

Пачынаць спрэчкі па першым пункце рэгламенту дакладчыкі не заклікалі.

Да другога пункта рэгламенту:

Шыманка прапанаваў, каб была вызначана колькасць і выбрана кіраўніцтва арганізацыі.

Без аніякіх праблем тайным галасаваннем былі абраны

5 сяброў прэзідыума: Рагуля Міхась, Пілецкі Мікола [37], Каўцэвіч Міхаіл, Шыманка Мікола, Карповіч Аляксей;

2 рэзервовыя сябры: Дзехцяроў [38] і Шавейка [39];

3 сябры кантрольнай камісіі: Станкевіч Міхаіл [40], Тананко Рыгор [41], Орса Пётра [42].

Да трэцяга пункта рэгламенту:

Аляксей Карповіч прапанаваў, каб на паседжанні была вызначана сума сяброўскіх унёскаў у памеры 3 чэшскія кроны ў месяц. Ухвалена.

Шыманка паседжанне скончыў.

Прага, 2 лістапада 1926 г.

Надзвычайных выпадкаў не было. (подпіс) Ян Гэйл (Jan Hejl), паліцэйскі выканаўца
Чытаў: Шлехта (Šlechta v.r.)

NA ČR. Fond 908 (MZV—RPA). Karton 364.

## 5
## ПАЛІЦЭЙСКАЯ СПРАВАЗДАЧА АБ АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ БЕЛАРУСКАЙ РАДЫ Ў ПРАЗЕ, ЯКІ АДБЫЎСЯ 8 СТУДЗЕНЯ 1927 г.

**СПРАВАЗДАЧА.** **Тэма**: агульны сход таварыства «Беларуская рада ў Празе».
**Склікальнік**: старшыня В. Захарка, Vršovice čр. 535.
**Праграма**: 1) справаздача прэзідыума; 2) прыняцце новых сяброў; 3) выбары; 4) рознае.
**Месца**: рэстаран U jelena, Vinohrady, Bruselská ul. č. 7.
**Час**: 8 студзеня 1927 г. з 15.00 да 19.30.
**Прысутныя**: 12 сяброў.
**Старшыня**: М. Каберац, Praha VI, Neklanova č. 40.
**Дакладчыкі**: В. Захарка, В. Русак, М. Каберац, Лісевіч[43] (Lisevič).

**ХОД.** Сход адкрыў старшыня аб'яднання Захарка. Пасля выбараў прэзідыума сходу была зачытана праграма паседжання, якую прынялі без зменаў. Далей сакратар зачытаў пратакол апошняга агульнага сходу (быў ухвалены), а затым паведаміў імёны прынятых прэзідыумам сяброў, а таксама імёны сяброў, якія са спіса былі выкраслены ў сувязі з іх ад'ездам.

Захарка пачаў рабіць справаздачу аб дзейнасці. Адзначыў, што пасля свайго абрання прэзідыум спадзяваўся на поспех працы таварыства, аднак непрадбачаныя цяжкасці заміналі ўсякай працы. Нягледзячы на гэта, сябры прэзідыума з вялікай энергіяй узяліся за працу і дасягнулі пэўных вынікаў, якія — са шкадаваннем канстатаваў — сустрэліся з дужа малой зацікаўленасцю з боку астатніх сяброў арганізацыі. Значных намаганняў запатрабавала арганізацыя выставы беларускай кнігі[44]. Да гэтай справы некаторыя сябры праявілі не толькі абыякавае стаўленне, але нават паставіліся зусім неахвотна. Прызнаецца, што такія паводзіны сяброў спараджаюць у яго няўпэўненасць у будучыні, да таго ж мацнее зменавехаўскі рух сярод эмігрантаў, які падрывае любую іншую дзейнасць. Нягледзячы на гэтыя акалічнасці, было, як сцвярджае, у беларускім нацыянальным руху зноў шмат зроблена.

Русак, старшыня рэвізійнай камісіі, паведаміў, што ў выніку зробленых праверак усё аказалася ў парадку. Цягам дэбатаў Лісевіч дапікнуў прэзідыум у тым, што той мог правесці куды больш працы. Паколькі прэзідыум з'яўляецца прадстаўніком беларусаў і іх інтарэсаў, было б яго абавязкам праз друк і лекцыі інфармаваць не толькі чэхаславацкую грамадскасць, але і ўсю Заходнюю Еўропу аб іх (беларускіх. — *А. Б.*) запатрабаваннях. У культурна-асветніцкай дзейнасці амаль нічога не зроблена.

Каберац звяртае ўвагу на тое, што нельга ўсю віну ўскладаць толькі на прэзідыум. Астатнія сябры таксама не павінны былі забывацца на свае абавязкі, бо дзейнасць арганізацыі не залежыць толькі ад 3 сяброў прэзідыума, але павінна весціся праз супрацоўніцтва ўсіх сяброў.

Захарка прызнае, што трэба было б праводзіць больш працы, але тлумачыць стан рэчаў тым, што не было, маўляў, магчымасці, а менавіта перашкодзілі сур'ёзныя прычыны, якія нельга было пераадолець. Што да культурна-асветніцкай дзейнасці, то было праведзена 6 лекцый, якія ў асноўным вельмі слаба наведвалі сябры таварыства.

Дэбаты былі скончаны, а затым прынялі рэзалюцыю, у якой выказваецца падзяка прэзідыуму за працу. Пасля перайшлі да выбараў. Абраны былі[45]: Захарка (старшыня), Вяршынін, Praha II. ир. 1872, Русак, Radotín, Ëŕˇńęł, Žižkov, Táboritská č. 51.

Пасля розных паведамленняў была прынята прапанова, каб прэзідыум па магчымасці сабраў сярод сяброў кнігі і арганізаваў бібліятэку таварыства. Больш ніякіх пытанняў для разгляду не паступіла, таму старшыня агульны сход скончыў.

Прага, 10 студзеня 1927 г. К. Лукеш (K. Lukeš, v. r.)

AMZV. 2. Sekce politicka 1918—1939. Karton 390. Č. 548/27.

## 6
## ПАЛІЦЭЙСКАЯ СПРАВАЗДАЧА АБ АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ САЮЗА СТУДЭНТАЎ — ГРАМАДЗЯН БССР, ЯКІ АДБЫЎСЯ 6 СНЕЖНЯ 1928 г.

**СПРАВАЗДАЧА. Тэма**: сход таварыства «Саюз навучэнцаў ВНУ — грамадзян БССР у ЧСР».
**Склікальнік**: намеснік старшыні П. Конюх[46], Braník, Zemanka.
**Праграма**: 1) справаздача аб дзейнасці; 2) выбары; 3) рознае.
**Месца**: рэстаран U Kroka, Praha VI, Vratislavova 10.
**Час**: 6 снежня 1928 г. з 14.00 да 15.00.
**Прысутныя**: 10 сяброў.
**Старшыня**: Алесь Карповіч, Braník, Kateřinská 299.
**Дакладчыкі**: Міхаіл Каўцэвіч, Praha II, V jirchářích 11, Мікола Шыманка, Braník, Zemanka.

**ХОД.** Пасля звычайных фармальнасцяў быў зачытаны і ўхвалены пратакол апошняга сходу, пасля чаго старшыня арганізацыі Каўцэвіч зрабіў справаздачу аб дзейнасці таварыства за апошні перыяд, адзначыўшы розныя цяжкасці, што выявіліся ў нястачы фінансавых сродкаў і няўдзеле сяброў, перагружаных акадэмічнай працай. Заўважыў, што і прэзідыум з тых самых прычын быў вымушаны абмежавацца самай неабходнай працай, скіраванай толькі на захаванне сталай сувязі паміж сябрамі. Наогул не было зроблена амаль нічога, бо ў культурна-асветніцкай секцыі не знайшлося добраахвотнікаў, якія б арганізавалі нейкія лекцыі.

Кантрольная камісія таксама пагадзілася з памянёнымі цяжкасцямі і выказала пажаданне, каб, насуперак усяму, наступны прэзідыум праявіў больш энергіі, прапанавала ўхваліць папярэднюю дзейнасць, пасля зацвярджэння гэтай прапановы была прынята пастанова аб змяншэнні колькасці сяброў прэзідыума да 3, бо таварыства налічвае ўсяго 13 сяброў.

У склад новага прэзідыума былі абраны: Міхаіл Каўцэвіч, П. Конюх і М. Шыманка.

Прага, 7 снежня 1928 г. Карэл Лукаш (Karel Lukeš v. r.)

NA ČR. Fond 908 (MZV—RPA). Karton 364. Č. 22395/28.

## 7
## ПАЛІЦЭЙСКАЯ СПРАВАЗДАЧА АБ АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ АБ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНЦКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ, ЯКІ АДБЫЎСЯ 4 СТУДЗЕНЯ 1930 г.

**СПРАВАЗДАЧА. Тэма**: сход таварыства «Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый».
**Склікальнік**: старшыня Вячаслаў Лаўскі, Nusle, Vratislavova ul. č. 5.
**Праграма**: 1) адкрыццё; 2) справаздача аб дзейнасці; 3) выбары; 4) вольныя прапановы.
**Месца**: рэстаран U Kňourka, Král. Vinohrady, Legerova ulice.
**Час**: 4 студзеня 1930 г. з 13.00 да 19.15.
**Прысутныя**: 22 асобы.
**Старшыня**: Вячаслаў Лаўскі.
**Дакладчыкі**: В. Лаўскі, Ф. Грышкевіч [47], Vršovice, Tyršova 44, Тамаш Грыб, Radotín 66, Станкевіч [48], Вільня.

**ХОД.** Пасля адкрыцця агульнага сходу, дзе прамовілі Захарка, Вяршынін, Грыб і іншыя прадстаўнікі студэнцкіх эміграцкіх арганізацый, якія зычылі далейшых поспехаў і добрых вынікаў, была выбрана мандатная камісія, зачытаны пратакол апошняга паседжання, і старшынёй Лаўскім зроблена справаздача аб дзейнасці арганізацыі за папярэдні перыяд, у якой рабіўся акцэнт на намаганнях для аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый і за межамі

ЧСР, што прэзідыуму ў значнай ступені ўдалося, і гэтым была палегчана дзейнасць, бо арганізацыя знаходзілася ў сталай пісьмовай сувязі са сваімі сябрамі і гэтым заклала добры падмурак для будучыні. Далей прамоўца прапанаваў агляд зробленага па лініі культурнай, асветніцкай і ўзаемадапаможнай і выказаў пажаданне, каб дэлегаты паклапаціліся пра абуджэнне зацікаўленасці сярод сяброў у паўсядзённым жыцці арганізацыі і як мага яго падтрымлівалі.

Наступныя справаздачы зрабілі: сакратар аб стане справаводства таварыства, скарбнік аб паступленнях і выдатках (паскардзіўся на дрэнную аплату сяброўскіх складак), і ўрэшце старшыня рэвізійнай камісіі засведчыў дзейнасць таварыства як паспяховую і прапанаваў яе ўхваліць. Паколькі ў дэбаты ніхто не ўступіў, дзейнасць прэзідыума была ўхвалена, а затым зацверджана прапанова, каб аддзелы друку і спорту, а таксама архіў арганізацыі былі перанесены ў Вільню ў Польшчы[49].

Перайшлі да выбараў новага прэзідыума, у які, акрамя трох сяброў з Вільні, былі абраны Лаўскі (старшыня), Грышкевіч і Грыб[50]. На заканчэнне было сказана аб далейшых указаннях у справе рыхтавання да ўсестудэнцкага кангрэсу[51], які павінен прайсці ў Бруселі, і зноў выказана пажаданне, каб прэзідыум таварыства быў дастаткова падтрыманы з боку сяброў і каб ён рэгулярна атрымліваў любую інфармацыю, якая можа прынесці карысць для працаўладкавання сяброў арганізацыі.

Прага, 7 студзеня 1930 г. Карэл Лукаш (Karel Lukeš v. r.)

AMZV. 2. Sekce politicka 1918—1939. Karton 225. Č. 301/30.

## 8
## ПАЛІЦЭЙСКАЯ СПРАВАЗДАЧА АБ ГРАМАДСКІМ СХОДЗЕ З НАГОДЫ 14-х угодкаў АБВЯШЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ, ЯКІ АДБЫЎСЯ 25 САКАВІКА 1932 г.

**СПРАВАЗДАЧА.** **Тэма**: грамадскі сход.
**Склікальнік**: за таварыства «Беларуская рада» старшыня М. Вяршынін.
**Праграма**: акадэмія, прысвечаная 14-м угодкам абвяшчэння БНР.
**Месца**: рэстаран U Kňourka, Praha II, Legerova č. 3.
**Час**: 25 сакавіка 1932 г. з 14.20 да 16.00.
**Прысутныя**: 23 асобы.
**Старшыня**: В. Захарка, Praha I, čр. 1060
**Дакладчыкі**: В. Захарка, др. Т. Грыб, Radotín.

**ХОД.** Акадэмію распачаў з кароткай прамовы сябра таварыства Захарка, які заўважыў, што як кожны народ адзначае свае рэлігійныя і нацыянальныя святы, так і народ беларускі святкуе нацыянальнае свята абвяшчэння незалежнасці свайго народу і дзяржавы. Згадаў усіх змагароў і нацыянальных герояў, якія загінулі за вызваленне сваёй радзімы, звярнуў увагу на сучасны стан свайго народу і выказаў пажаданне, каб ужо ў найбліжэйшай будучыні расцярушаныя па свеце эмігранты маглі вярнуцца на сваю бацькаўшчыну.

Др. Грыб зрабіў выклад гісторыі беларускага народу і, галоўнае, падкрэсліваў у ёй ідэалагічныя памкненні беларускага адраджэнскага руху як у літаратуры, так і ў палітычным жыцці.

На заканчэнне былі зачытаны пісьмовыя віншаванні ад розных таварystваў і прыватных асоб, і на тым паседжанне было скончана. Ход паседжання быў бездакорны.

Прага, 26 сакавіка 1932 г. Карэл Лукаш (Karel Lukeš v. r.)

AMZV. 2. Sekce politicka 1918—1939. Karton 225. Č. 5457/32.

## ЗАЎВАГІ

[1] Plavec M. Opatrné přešlapování: první kontakty Československé a Běloruské vlady, 1918—1925 // Cesty k národnímu obrození: běloruský a český model: sborník příspěvků z konference konané 4.-6.7.2006 v Praze / [editoři Alena Ivanova, Jan Tuček]. Praha : UK FHS, 2006. S. 365.

[2] У гістарыяграфіі замацавалася назва «Руская акцыя».

[3] Вацлаў Гірса (1875—1954) — чэшскі дыпламат, намеснік міністра замежных спраў ЧСР (1921—1927), амбасадар ЧСР у Польшчы (1927—1935), Літве, Эстоніі, Фінляндыі, Югаславіі (1935—1938).

[4] Пражскае паліцэйскае ўпраўленне — дзяржаўны орган ЧСР, адказны за выкананне паліцэйскага кіравання, вырашэнне крымінальных спраў, падтрыманне грамадскага парадку і грамадскай бяспекі, знаходзіўся ў падпарадкаванні МУС ЧСР і Земскага палітычнага ўпраўлення (г. Прага).

[5] Абласное палітычнае ўпраўленне (г. Прага) — орган мясцовага кіравання адміністрацыйнай адзінкі Чэхія (у адпаведнасці з адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам ЧСР складалася з наступных земляў: Чэхія, Маравія, Сілезія, Славакія, Падкарпацкая Русь), у кампетэнцыі якога знаходзіўся шэраг пытанняў, звязаных з арганізацыяй грамадскага жыцця.

[6] Беларуская рада ў Празе (1923—1939) — беларуская грамадска-палітычная арганізацыя ў Чэхаславакіі. Пераняла выкананне функцый распушчанай Беларускай грамады. У розны час арганізацыю ўзначальвалі Л. Заяц, В. Захарка, М. Вяршынін.

[7] Таварыства студэнтаў маларосаў і беларусаў «Адзінства рускай культуры» — эмігранцкая грамадска-палітычная арганізацыя ў Чэхаславакіі, якая аб'ядноўвала беларускую і ўкраінскую моладзь, што прытрымлівалася прынцыпаў заходнерусізму. Стварэнне арганізацыі інспіравала расійская эмігранцкая група (праф. Д. Вяргун (1871—1951), філолаг, публіцыст, з 1921 г. у Празе; студэнцкі саюз «Червонная Русь»; Аб'яднанне рускіх эмігранцкіх студэнцкіх арганізацый). Таварыства было афіцыйна зацверджана 26.09.1924 г., пасля чаго 29.11.1924 г. на ўстаноўчым сходзе быў абраны першы прэзідыум арганізацыі (гл. падр.: В обществе студентов малороссов и белорусов в Праге // Студенческие годы. Прага. 1925. № 1(18). С. 49.). У 1929 г. адбылася змена назвы арганізацыі на Саюз маларосаў і беларусаў «Адзінства рускай культуры». Звесткі пра дзейнасць Саюза ў 1930-я гг. невядомыя.

[8] Саюз студэнтаў — грамадзян БССР (1925 — канец 1920-х гг.) — беларуская студэнцкая арганізацыя ў Чэхаславакіі, аб'ядноўвала па-прасавецку настроеную моладзь, якая пасля заканчэння вучобы збіралася ехаць на працу ў Савецкую Беларусь. Фінансавалася савецкім прадстаўніцтвам у ЧСР.

[9] Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый (1924—1938) — цэнтральны орган кіравання студэнцкім рухам Заходняй Беларусі і эміграцыі. Удзельнічала ў грамадска-палітычным жыцці беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі, актыўна выступала ў міжнародным студэнцкім руху, каардынавала дзейнасць беларускіх студэнцкіх арганізацый Польшчы, Бельгіі, Германіі і іншых краін Еўропы.

[10] Устаноўчы сход Беларускай рады, на якім старшынёй таварыства быў абраны П. Крачэўскі, адбыўся 6.11.1923 г. Але ж толькі 8.02.1924 г. арганізацыя была афіцыйна зарэгістравана чэхаславацкімі ўладамі (AhlmP, fond Spolkový katastr, SK XXII/1166, bez katalogizačního čísla). Таму агульны сход, які праходзіў 30.09.1924 г., названы ў дакуменце № 1 першым, г. зн. першы агульны сход пасля атрымання арганізацыяй афіцыйнага статусу.

[11] Акрамя П. Крачэўскага, у ініцыятыўную групу па стварэнні Беларускай рады ў Празе ўваходзілі М. Вяршынін і У. Пракулевіч.

[12] Выбары ў прэзідыум, куды трапілі прадстаўнікі студэнцтва Я. Дыліс і У. Жылка, сведчаць пра павелічэнне сацыяльнай базы (падтрымка з боку левасацыялістычнай моладзі з АБПС, што стала адлюстраваннем паспяховай дзейнасці Рады на працягу канца 1923 г. — першай паловы 1924 г.

[13] Дыліс Яўген — выпускнік Віленскай беларускай гімназіі (ВБГ). Згодна з успамінамі Л. Краскоўскай, Я. Дыліс па нацыянальнасці быў літоўцам. У Празе — з другой паловы 1923 г. Студэнт Чэшскай вышэйшай гандлёвай школы. З'яўляўся сябрам АБПС.

[14] Уладзімір Жылка (1900—1933) — беларускі паэт, перакладчык, крытык. З 1923 г. у Празе. Навучаўся на філасофскім факультэце Карлавага ўніверсітэта. Адзін з лідараў АБПС, Саюза студэнтаў — грамадзян БССР. Дэлегат ад АБСА на канферэнцыі Міжнароднай канфедэрацыі студэнтаў (CIE) у Варшаве (верасень 1924 г.). На сходзе Беларускай рады ў Празе (30.09.1924 г.) абраны ў прэзідыум на пасаду скарбніка. Рэдактар пражскіх беларускіх часопісаў «Перавясла», «Прамень», «Новы Прамень».

[15] Ермалай Гулы — кубанец па нацыянальнасці (так пазначана ў тагачасных дакументах). Студэнт Чэшскага тэхнічнага ўніверсітэта ў Празе (па-іншаму — Пражская палітэхніка). Быў старшынёй Саюза студэнтаў маларосаў і беларусаў (1924—1925). Зноў абраны на гэтую пасаду ў сакавіку 1927 г.

[16] Сяргей Завадскі (1871—1935) — расійскі навуковец-правазнаўца, лінгвіст, літаратуразнаўца. З 1922 г. — у Празе. Прафесар Рускага юрыдычнага факультэта ў Празе. Актыўна ўдзельнічаў у грамадска-культурным жыцці рускай эміграцыі.

[17] Васіль Русак (1896 — пасля 1946) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, фалькларыст, выдавец. З 1923 г. — у Празе. У 1928 г. скончыў Пражскую палітэхніку. Сябра АБПС, Беларускай рады ў Празе, АБСА, Беларускага (крывіцкага) культурнага таварыства імя Ф. Скарыны ў Празе.

[18] Вінцэнт Грышкевіч (1903—1989) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, педагог, гісторык. З 1922 г. — у Празе. У 1926 г. скончыў філасофскі факультэт Карлавага ўніверсітэта. Сябра АБПС, Беларускай рады ў Празе, АБСА (першы старшыня гэтай арганізацыі).

[19] Нягледзячы на ўсе намаганні для стварэння спачатку Беларускага вучыцельскага інстытута ў Празе, а пасля кафедры беларусазнаўства пры Украінскім вышэйшым педагагічным інстытуце імя М. Драгаманава (УВПІ), беларусам не ўдалося ажыццявіць гэтых задумаў. Дагэтуль у беларускай гістарыяграфіі памылкова лічылася, што пры УВПІ існавала кафедра беларусазнаўства. Гэты «міф» прафесійна і абгрунтавана развеяла ўкраінская даследчыца В. Ямкова (гл. падр.: Ямкова О. «Празький період» життя та праці Томаша Гриба // Пам'ятки: археографічний щорічник / Держкомархів України; УНДІАСД; Редкол.: І.Б. Матяш (гол. ред.) та ін. К., 2006. Т. 6. С. 103—117).

[20] Значная частка беларусаў, якія атрымлівалі дзяржаўныя стыпендыі, з'яўляліся польскімі грамадзянамі. На падставе таго, што «Руская акцыя» была праграмай для падтрымкі эмігрантаў, польскі бок звярнуўся ў МЗС ЧСР з просьбаю пазбавіць беларусаў — грамадзян Польскай Рэспублікі грашовай падтрымкі. Часткова запыт польскага боку быў задаволены.

[21] У 1924 г. фіксаваная стыпендыя для студэнтаў-эмігрантаў была роўная 600 чэш. кронам. Да таго ж выдаваўся поўны камплект адзення і дзяржава пакрывала выдаткі за навучанне. У сярэдзіне 1920-х гг. сярэдні месячны бюджэт для пражыцця аднаго студэнта ў Празе складаў 700 чэш. крон. Большая частка грошай расходавалася на аплату пражывання (каля 200 чэш. крон) і харчавання (каля 230 чэш. крон) (Шрамченко Л. Українське, білоруське та грузинське студентство на високих школах в Чехословацькій республіці. Подєбради, 1926. С. 27—31.).

[22] Другая ўсебеларуская канферэнцыя-нарада беларускіх палітычных дзеячаў у эміграцыі (12—16.10.1925 г.). Па выніках канферэнцыі была спынена дзейнасць урада БНР, а большая частка сяброў урада БНР з прысутных на канферэнцыі (А. Цвікевіч, Л. Заяц, У. Пракулевіч) «прызнала Мінск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі» (Другая ўсебеларуская канферэнцыя / А. Сідарэвіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Мн., 1993—2003. Т. 3. Мн., 1996. С. 283—284.).

[23] Прамоўца меў на ўвазе прыхільнікаў прасавецкай арыентацыі беларускага нацыянальнага руху.

[24] Сябры Беларускай рады ў Празе Л. Заяц, У. Пракулевіч і Я. Дыліс.

[25] Маецца на ўвазе захаванне структураў БНР (урада і рады).

[26] Мікіта Шапавал (1882—1932) — украінскі грамадска-палітычны дзеяч, лідар украінскіх эсэраў. З 1919 г. — у Чэхаславакіі. Арганізатар і кіраўнік шэрагу ўкраінскіх арганізацый і ўстаноў у ЧСР (Украінскі грамадскі камітэт, Украінскі сацыялагічны інстытут у Празе і інш.).

[27] Тут і далей у дакуменце маецца на ўвазе Беларуская рада ў Празе.

[28] Можна меркаваць, што той, хто рабіў справаздачу, памыліўся ў напісанні прозвішча гэтай асобы. Хутчэй за ўсё, гаворка ідзе пра Лявона Мэнке (1905—?) — ён паходзіў з роду віленскіх немцаў. Выпускнік ВБГ. У Празе — з канца 1923 г. Навучаўся на прыродазнаўчым факультэце Карлавага ўніверсітэта. Уваходзіў у склад АБПС. Быў сваяком Юліяны Вітан-Дубейкаўскай (у дзявоцтве Мэнке).

[29] Хутчэй за ўсё т. зв. «Беларускую марсельезу» («Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі»).

[30] Вячаслаў Лаўскі (1900—1951) — дзеяч беларускага студэнцкага руху, педагог. У Празе — з восені 1922 г. Навучаўся ў Пражскай палітэхніцы. Сябра Беларускага сялянскага саюза ў Празе, «Беларускага сакола», Беларускай рады ў Празе, АБСА (старшыня — з лістапада 1927 г. да студзеня 1931 г.).

[31] Міхась Каберац (1902—1931) — слуцкі паўстанец, дзеяч беларускага студэнцкага руху. Выпускнік Слуцкай гімназіі. З 1923 г. — у Чэхаславакіі. У 1928 г. скончыў лясны факультэт Пражскай палітэхнікі. Сябра АБПС, Беларускай рады ў Празе. Адзін з ініцыятараў стварэння АБСА. Пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе.

[32] У беларускай гістарыяграфіі за гэтай арганізацыяй замацавалася назва Саюз студэнтаў — грамадзян БССР. Саюз быў афіцыйна зацверджаны 23.06.1926 г., а 30.10.1926 г. адбыўся яго ўстаноўчы сход (AhlmP, fond Spolkový katastr, SK X/345, bez katalogizačního čísla). Фактычна Саюз студэнтаў — грамадзян БССР распачаў сваю дзейнасць у траўні 1925 г.

[33] Міхаіл Каўцэвіч — студэнт электратэхнічнага факультэта Пражскай палітэхнікі. Старшыня Саюза студэнтаў — грамадзян БССР з 1926 г. па 1929 г. (за выключэннем перыяду з 5.11.1925 г. да 29.04.1929 г.).

[34] Мікола Шыманка — студэнт Пражскай палітэхнікі. Сябра Саюза студэнтаў — грамадзян БССР (з 1926 па 1929 г. нязменна займаў пасаду сакратара).

[35] Алесь Карповіч — скончыў 7 класаў Віленскай духоўнай семінарыі. У 1923 г. пераехаў у Прагу, дзе навучаўся на матуральных курсах. Пасля — студэнт Пражскай палітэхнікі. Сябра Саюза студэнтаў — грамадзян БССР (у канцы 1927 г. — першай палове 1928 г. — намеснік старшыні).

[36] Рагуля Міхась — выпускнік Наваградскай беларускай гімназіі. Пасля пераехаў на вучобу ў Прагу. Сябра Саюза студэнтаў — грамадзян БССР (з 9.04.1927 г. па 29.04.1928 г. намеснік старшыні).

[37] Пілецкі Мікола — вучыўся ў ВБГ. Пасля пераезду ў Прагу і заканчэння матуральных курсаў паступіў у Пражскую палітэхніку. Сябра Саюза студэнтаў — грамадзян БССР (з 5.11.1927 да 29.04.1928 г. — на пасадзе старшыні).

[38] Кастусь Дзехцяроў — пасля заканчэння ВБГ накіраваўся на вучобу ў Чэхаславакію. Сябра Саюза студэнтаў — грамадзян БССР.

[39] Лявон Шавейка — скончыў 7 класаў Віленскай духоўнай семінарыі. З 1923 г. — у Празе на матуральных курсах. Пасля працягваў вучобу ў адной з вышэйшых школ Прагі. Сябра Саюза студэнтаў — грамадзян БССР.

[40] Міхаіл Станкевіч — сябра Саюза студэнтаў — грамадзян БССР.

[41] Рыгор Тананко — выпускнік Віленскай духоўнай семінарыі. У Празе з 1923 г. Сябра прэзідыума Саюза студэнтаў-грамадзян БССР у 1927—1928 гг.

[42] Пётра Орса — выпускнік Наваградскай беларускай гімназіі. У Празе з 1923 г. У 1930 г. скончыў Пражскую палітэхніку. Сябра Саюза студэнтаў — грамадзян БССР, АБСА, Беларускага (крывіцкага) культурнага таварыства імя Ф. Скарыны.

[43] Інфармацыя пра гэтую асобу не выяўлена.

[44] Тут можа весціся гаворка ці пра падрыхтоўчую кніжную выставу (8—10.03.1926 г.), ці пра міжнародную славянскую кніжную выставу (чэрвень — ліпень 1926 г.). На абедзвюх гэтых выставах, што праходзілі ў Празе, быў арганізаваны беларускі аддзел.

[45] Далей паліцэйскі назіральнік прыводзіць памылковыя звесткі. У сапраўднасці на агульным сходзе Беларускай рады, які праходзіў 8.01.1927 г., у прэзідыум былі абраны — В. Захарка (старшыня), М. Вяршынін, І. Журэнкаў, В. Русак. В. Лаўскі не ўвайшоў у склад праўлення, а быў прызначаны кандыдатам у яго склад (AhlmP, fond Spolkový katastr, SK XXII/1166, bez katalogizačního čísla).

[46] Павел Конюх — выпускнік Віленскай духоўнай семінарыі. У Празе — з 1923 г. У 1928—1929 гг. намеснік старшыні Саюза студэнтаў — грамадзян БССР.

[47] Францішак Грышкевіч (1905—1946?) — беларускі культурна-асветніцкі дзеяч, педагог. У 1926—1931 гг. навучаўся на філасофскім факультэце Карлавага ўніверсітэта, які скончыў са ступенню доктара філасофіі, абараніўшы дысертацыю па тэме «А. І. Герцэн і славянства». Сябра Беларускага (крывіцкага) культурнага таварыства імя Ф. Скарыны ў Празе, АБСА, Беларускай рады ў Празе (у 1930 г. — намеснік старшыні).

[48] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч (1907—1980) — беларускі грамадскі дзеяч, навуковец. На той час студэнт Віленскага ўніверсітэта. Сябра Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні, Таварыства прыяцеляў беларусаведы, рэдактар часопіса «Студэнцкая думка». Уваходзіў у склад урада АБСА ў Вільні (быў эканамічным рэферэнтам, пасля прэсавым). Прысутнічаў у Празе на 5-м з'ездзе АБСА.

[49] На 5-м з'ездзе АБСА (4.01.1930 г.) было пастаноўлена перанесці ў Вільню спартовы, прэсавы і эканамічны аддзелы АБСА, якія разам стварылі ўрад АБСА ў Вільні. У сувязі з гэтым у Вільню была перададзена і частка архіва арганізацыі.

[50] Зноў паліцэйскі назіральнік зрабіў памылку. Насамрэч у новы прэзідыум на 5-м агульным сходзе АБСА, які меў месца 4 студзеня 1930 г., былі абраны В. Лаўскі (старшыня), Т. Грыб (намеснік старшыні), Л. Гірыс (сакратар і скарбнік), А. Вітушка (рэферэнт па замежных справах), П. Орса (вольны сябра) (AhlmP, fond Spolkový katastr, SK X/344, bez katalogizačního čísla). Фр. Грышкевіч не ўвайшоў у склад прэзідыума.

[51] У жніўні 1930 г. у Бруселі праходзіў 12-ы кангрэс Міжнароднай канфедэрацыі студэнтаў. На кангрэсе прысутнічала дэлегацыя АБСА (А. Вітушка і Д. Касмовіч).

Материал поступил в редакцию 15 сентября 2011 г.